Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

## ПАДПІСКА-2000

Працягваецца падпіска на "Бабруйскае жыццё". Падпісная цана: на 6 месяцаў – 2.556 рублёў; на 3 месяцы – 1.278 рублёў; на 1 месяц – 426 рублёў. Для ведамстваў паўгадавы абанемент абыйдзецца ў 4.584 рублі, квартальны – 2.292 рублі, месячны – 764 рублі.

№90 (15994) СЕРАДА, 14 чэрвеня 2000 года. Цана 25 руб.

## ДНЮ ГОРАДА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*Ужо стала традыцыяй у гадавіну вызвалення Бабруйска і Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў праводзіць Дзень горада. Для арганізацыі правядзення і падрыхтоўкі яго, гарвыканкам стварыў камісію, якую ўзначаліў намеснік старшыні гарвыканкома В. Д. Гарбанёў. Распрацаваны рабочы план правядзення Дня горада.*

*Мы папрасілі загадчыка аддзела па сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і сродкамі масавай інфармацыі гарвыканкома В. Р. Чарняка расказаць аб асноўных мерапрыемствах свята.*

*– 28 чэрвеня ў Палацы культуры шыннікаў адбудзецца ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, воінаў гарнізона, прысвечаны 46-й гадавіне вызвалення Бабруйска і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*На наступны дзень членамі гарвыканкома, кіраўнікамі адміністрацый раёнаў, працоўных калектываў будуць ускладзены вянкі і кветкі да помніка загінуўшым героям, што знаходзіцца каля гарадскіх могілак, да помніка У. І. Леніну, да танка-помніка Б. С. Бахараву. І яшчэ адна прыемная вестка чакае гараджан. У гэты дзень будзе ўрачыста адкрыта тралейбусная лінія ў шосты мікраараён.*

*У той жа дзень, пасля абеду намячаецца ўрачыстае віншаванне выпускнікоў-медалістаў школ, вучылішчаў і тэхнікумаў горада. Яно пройдзе ў Палацы культуры шыннікаў. Выдатнікам вучобы будуць уручаны медалі і каштоўныя падарункі.*

*1 ліпеня свята будзе працягнута. На вуліцы Сацыялістычнай да плошчы Перамогі будзе арганізаваны гандлёвы кірмаш. З канцэртам выступяць удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Вялікае фізкультурна-спартыўнае свята плануецца правесці на гарадскім стадыёне "Спартак". Акрамя таго, у мікрараёнах горада адбудуцца народныя гулянні.*

*3 ліпеня прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскасці, ветэраны вайны ўскладуць кветкі да помніка У. І. Леніну. І як звычайна, у вялікія святы, будзе арганізавана шэсце ветэранаў ад цэнтральнай плошчы на плошчу Перамогі. Будуць ускладзены кветкі і вянкі да помніка воінам-інтэрнацыяналістам, да танка-помніка Б. С. Бахараву і на магілы загінуўшых герояў за вызваленне горада ад акупантаў.*

*У гарадскім парку культуры і адпачынку будзе арганізавана культурна-забаўляльная праграма. Закончыцца свята прыгожым феерверкам.*

**Н. ДЗЕМІДОВІЧ.**



**Таццяна Барысава аператар-вышывальшчыца. На АТ "Бабруйсктрыкатаж" яна з 1993 года. Два гады працавала швачкай чацвёртага разраду.**

**У 1995 годзе кіраўніцтва цэха прапанавала паспрабаваць сябе на новым працоўным месцы. За кароткі час Таццяна з поспехам авалодала спецыяльнасцю вышывальшчыцы і ўжо мае шмат вучаніц.**

**На здымку: Таццяна Барысава.**
**Аляксандр ФІСЕНКА.**

## ПЕРАДАВІКІ ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ СЛУЖБЫ

*Усе мы вельмі часта і слушна памінаем нядобрым словам службу жыллёва-камунальнай гаспадаркі за сур'ёзныя недахопы ў яе дзейнасці, не прыкмячаючы таго складанага становішча, у якім яна знаходзіцца, і перш за ўсё з-за адсутнасці неабходных сродкаў. Аднак і ў гэтай сферы ёсць станоўчыя прыклады, дасягненні.*

*Аб гэтым сведчаць вынікі абласнога агляду ўтрымання і тэхнічнага стану жыллёвага фонду, якія падведзены вытворчым упраўленнем жыллёва-камунальнай гаспадаркі Магілёўскага аблвыканкома і абласным камітэтам прафсаюзаў.*

*Сярод раённых аб'яднанняў жыллёва-камунальнай гаспадаркі першае месца прысуджана АЖКГ Першамайскага раёна нашага горада (дырэктар С.А. Нікіцін). Дарэчы, летась яно заняло другое месца ў такім жа аглядзе. Сярод жыллёва-эксплуатацыйных участкаў другое месца дасталося ЖЭУ №8 гэтага ж аб'яднання (начальнік К.І. Буслові́ч). Станоўча ацэнена работа па ўтрыманню і паляпшэнню тэхнічнага стану жылога фонду ЖЭУ №9 Першамайскага раёна (начальнік І.С. Драздоўская) і ЖЭУ №13 Ленінскага раёна (начальнік Г.Р. Свірыд).*

*І вось новая прыемная вестка: у рэспубліканскім аглядзе АЖКГ Першамайскага раёна заваявала другое месца.*

**Г. ЯФІМАЎ.**

### По сводкам санэпидслужбы

## ПО-ПРЕЖНЕМУ „ХРОМАЕТ" ГИГИЕНА В ДЕТСКИХ САДАХ

В мае радиационный фон оставался в пределах 0,10-0,14 мкзв/час. Для исследования в радиологическую лабораторию были доставлены 84 пробы. Одна из них, мясо дикого кабана из Кличевского района, имела превышение содержания радионуклидов.

На содержание нитратов исследовались лук (перо), помидоры, огурцы. Обнаруженное содержание нитратов не превышало предельно допустимых норм.

При осуществлении контроля за качеством питьевой воды выявлены нестандартные пробы по содержанию железа и мутности (превышения от 1,5 до 2,5 раза).

За выявленные грубые нарушения санитарно-гигиенических требований оштрафовано 67 человек. В их числе повар д/с № 40 Т. Мишина, помощник воспитателя д/с № 19 Е. Пирожник, повар д/с № 41 Т. Артёмова, воспитатель д/с № 22 Н. Прокопеня, повар д/с № 40 Г. Лапина, заведующая магазином № 1 "Нестерка" Н. Смирнова, мастер горДЭП Н. Хроменкова, мастер парикмахерской МП "Яна" Е. Симухина и другие.

Вынесено 11 постановлений о приостановлении эксплуатации объектов.

Снизилась заболеваемость гепатитом, в мае зарегистрирован один случай. Зарегистрировано 12 случаев туберкулёза, 19 – чесотки.

**А. ЧИСТОБАЕВ,**
***главный государственный санитарный врач города.***

## Заправиться станет легче и бензина будет больше

В очень скором времени, а точнее к октябрю этого года ставшая притчей во языцех для всех автовладельцев нашего города топливная монополия Бобруйского предприятия нефтепродуктов, существенно пошатнется. Айсбергом, который пробьет брешь в монополии этого топливного "Титаника" в Бобруйске станет совместное Белорусско-Российское предприятие "Славнефть – старт".

Дело в том, что именно в начале осени должна вступить в строй новая автозаправочная станция этой широко известной компании, строительство которой полным ходом идет сейчас в очень удобном месте: на выезде из города в районе Еловиков.

Новая АЗС, как рассказал директор Бобруйского филиала СП Василий Васильевич Кожич, рассчитана на четыре топливные колонки и будет отпускать нефтепродукты всех видов от элитного 95-го бензина до обычного дизтоплива.

Кроме того, с учетом требований сегодняшнего дня, который диктует свои условия торговли, на автозаправочной станции будет работать магазинчик, в котором автомобилисты-бобруйчане и транзитники будут иметь возможность купить различные сопутствующие товары и продукты питания.

Надо сказать, что это не первая в нашем городе АЗС этой известной нефтяной компании. Уже несколько лет успешно противостоит государственной монополии над единоличным владением думами, чаяниями и кошельками городских водителей в лице Бобруйского предприятия нефтепродуктов бело-красно-голубая заправочная станция "Славнефть-старта", работающая в районе высшего профессионального училища декоративно-прикладного искусства на углу улиц Крылова и Шевченко. Именно здесь во время прошлогоднего "бензинового голода" бобруйчане имели больше всего шансов время от времени заправить свои авто.

Во всяком случае, будем надеяться, что конкуренция между "королями бензоколонок" нашего города, которая, по законам нормального рынка, неизбежно должна будет возникнуть, сыграет на руку потребителям нефтепродуктов, так как бензина будет больше и заправиться станет легче.

**Валерий ЗИНОВСКИЙ.**

## Пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага савета адбудзецца ў Маскве

Чарговае пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага савета саюзнай дзяржавы адбудзецца 27 чэрвеня ў Маскве. Гэта дата ўзгоднена ў час праведзенай нядаўняй сустрэчы прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Ярмошына з дзяржаўным сакратаром саюзнай дзяржавы Паўлам Барадзіным. Асноўным пытаннем на пасяджэнні будзе зацвярджэнне праекта бюджэту саюзнай дзяржавы на 2000 год, прынятага ў другім чытанні парламенцкім сходам на праведзенай у Маскве сесіі.

**БЕЛТА.**

"БАБРУЙСКАЕ ЖЫЦЦЁ"

## БИЛЕТ УДАЧИ 2000

ф.И.О.____________________

Адрес подписчика____________________

____________________

Телефон____________________

Наименование организации, оформившей подписку____________________

ОТРЕЗНОЙ ТАЛОН

**Чтобы стать участником розыгрыша лотереи "Билет удачи", вам необходимо оформить подписку на "БЖ" на второе полугодие 2000 года, заполнить отрезной купон, который публикуем, и выслать его на адрес нашей редакции.**

**Итоги розыгрыша лотереи "Билет удачи" будут опубликованы в газете "Бабруйскае жыццё" в ноябре текущего года.**

**Свои призы редакции уже предоставили радиотакси "Вояж-055", комбинат нетканых материалов, городская ассоциация промышленников и предпринимателей, фитнесс-центр "Олимпия", малое предприятие – фирма "Видео-Сервис".**

# Святліца

Газета акцыянернага таварыства "Бабруйскмэбля"


Летні адпачынак

## РАСПАЧАЛІ АЗДАРАЎЛЕНЧЫ СЕЗОН

*З 10 чэрвеня ў аздараўленчым летніку "Спадарожнік", які месціцца на станцыі Мірадзіна, распачаўся летні сезон. На адпачынак сюды прыехалі 170 хлопчыкаў і дзяўчынак, якія будуць знаходзіцца тут на працягу 21 дня. Далейшы адпачынак у "Спадарожніку" будзе арганізаваны на другую і трэцюю змены.*

*Варта зауважыць, што бацькі ахвотна адпраўляюць сваіх дзяцей на аздараўленне: яны там заўсёды пад наглядам, накормленыя, для іх арганізоўваюцца розныя забаўляльныя мерапрыемствы. Плата за трохтыднёвую пуцёўку складае дзесяць працэнтаў ад яе агульнага кошту. Астатнія выдаткі пакрываюцца за кошт сродкаў прадпрыемства і дзяржаўных датацый.*

*Усяго за летні сезон у "Спадарожніку" адпачнуць 510 хлопчыкаў і дзяўчынак. Праўда, на аздараўленне ў летнік прыедуць не толькі дзеці, бацькі якіх працуюць у нашым акцыянерным таварыстве. Згодна з разнарадкай 178 аздараўляльных пуцёвак выдзелена пабочным арганізацыям і прадпрыемствам, што складае 35 працэнтаў іх агульнай колькасці.*

**Людміла ХАПАНКОВА,**
***галоўны бухгалтар прафсаюзнага камітэта.***

# НАЧАЛЬНІК СЛУЖБЫ ДНЯ І НОЧЫ

***Што родніць службу аховы вытворчага прадпрыемства з той жа міліцэйскай службай? Ды багата чаго, скажуць кампетэнтныя на тое суразмоўцы. І тыя, і іншыя найперш забяспечваюць парадак. Праўда, абавязкі службы аховы прадпрыемства абмяжоўваюцца яго вытворчымі межамі. Аднак і першых, і другіх яднае галоўнае: служба ўдзень і ўночы.***

***Менавіта з начальнікам такой службы я меў мажлівасць сустрэцца і паразмаўляць аб арганізацыі і асаблівасцях працы, аб забеспячэнні парадку на вытворчай тэрыторыі аб узаемаадносінах між ахоўнікамі і тымі людзьмі, што ім падкантрольныя.***

– Аналізуючы колькасць крадзяжоў і розных парушэнняў, – заўважае Інакенцій Цяцерын, – прыходжу да высновы, што яны змяншаюцца ў геаметрычнай прагрэсіі. І сёння мы маем справу хіба што з дробнымі парушэннямі, якія бываюць рэдка...




Інакенцій Сяргеевіч узгадаў той час, калі болей за сем год таму прыйшоў у народнае аб'яднанне і стаў працаваць начальнікам аддзела аховы і бяспекі. Пад той час прапускны і ўнутрыаб'ектавы рэжым на прадпрыемстве быў наладжаны слаба: прыдумаўшы зручную прычыну на тэрыторыю мог заехаць альбо зайсці любы пабочны чалавек. Кантроль за ўвозам матэрыяльных каштоўнасцей, як, дарэчы, і за вывазам гатовай прадукцыі і дэталяў, ажыццяўляўся фармальна. Ахоўнікамі ж працавалі бабулі ды дзядулі.

Давялося шмат чаго перайначыць, зрабіць на свой лад, па сваім разуменні. З часам быў зроблены капітальны рамонт функцыянуючых прахадных, збудаваны кантрольна-пропускны пункт і дзве вартавыя вышкі. Поўнасцю была адноўлена аўтаматычная пажарная сігналізацыя, цэхі і ўчасткі з гатовай прадукцыяй, шэраг памяшканняў з матэрыяльнымі каштоўнасцямі абсталявалі ахоўнай сігналізацыяй. Праца па ўмацаванню кантрольна-прапускнога рэжыму ідзе і сёння. Так, прахадная з усімі адпаведнымі ўмовамі для працы будуецца на заводзе мэблевых дэталяў, а на іншых вытворчых тэрыторыях плануецца збудаваць яшчэ дзве.

Начальнік аддзела аховы і бяспекі істотна змяніў падбор і расстаноўку кадраў: у большасці тут сталі працаваць былыя вайскоўцы. Праўда, у службе аховы ёсць і жанчыны. Людзі на працу ідуць сюды ахвотна: усё адпрацавана, абсталявана і наладжана як мае быць. Інакенцій Сяргеевіч падкрэсліў адну акалічнасць: аддзел аховы працуе па ліцэнзіі, што выдадзена аб'яднанням "Ахова" пры Міністэрстве ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

– Жорсткі прапускны рэжым па першым часе людзі ўспрымалі негатыўна, – дапаўняе сказанае начальнік аддзела. – А вось гады з два-тры таму сталі задумвацца і пагаджацца з думкай, што мы ахоўваем не толькі маёмасць прадпрыемства, але і зберагаем іхнія ж грошы.

Гэткаму становішчу спраў паспрыялі не толькі жорсткі кантроль на прахадных, абсталяванне ахоўных тэхнічных сродкаў, а і выхаваўчая, і прафілактычная работа. Людзі ведаюць, што за далушчаныя парушэнні трэба несці як адміністрацыйную, так і матэрыяльную адказнасць. А далёка зайшоўшы, можна і крыміналу не пазбегнуць. Аддзелам наладжана цесная сувязь з праваахоўнымі органамі і адміністрацыйна-кіраўніцкім персаналам на вытворчасці. Нават за нейкую дробязь парушальнікі нясуць адказнасць і паводле калектыўнай дамовы, адпаведнае налажэнне якой надоўга пазбаўляе іх даплаты за працоўны стаж.

Вядома, добрыя вынікі ў рабоце аддзела аховы і бяспекі – заслуга тых людзей, што ўдзень і ўночы нясуць службу па ахове парадку на прадпрыемстве і яго маёмасці. Лепшыя ахоўнікі заахвочваюцца грашовымі прэміямі і каштоўнымі падарункамі. Інакенцій Сяргеевіч у першую чаргу называе начальнікаў каманд А. Петрашчука, М. Трубачова, кантралёраў-ліфцёраў Н. Вяроўкіну, Т. Белікаву, кантралёраў Ю. Проніна, У. Карнілава, В. Пасюкевіча, Т. Міхалап і У. Чулкова.

Кіраўніцтва прадпрыемства не абыходзіць увагай і самога начальніка аддзела, які апроч сціплых працоўных заслуг мае ўрадавыя ўзнагароды. Прыкладам, ордэн Чырвонай Зоркі, медалі. Інакенцій Сяргеевіч, як кажуць, зарабіў іх не на цывільнай службе, а на забеспячэнні бяспекі войскаў і падраздзяленняў Міністэрства абароны, працуючы ў свой час у асобым аддзеле КДБ. Ён служыў на Далёкім Усходзе, у Нямеччыне і Гродне, Афганістане і пры канцы службы – у Бабруйску. Дык вось, калі параўнаць, прааналізаваць і хоць крыху ў думках узважыць яго тагачасную працу і сённяшнюю, то няцяжка зрабіць выснову: служба дня і ночы акцыянернага таварыства – у надзейных руках.

**Леанід КУЛЯВЕЦ.**
**Фота Аляксандра ФІСЕНКІ.**

## АБСТАЛЁЎВАЕМ ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ

Якасць нашай высокамастацкай мэблі на высокім узроўні ацэнена ўжо не адзін раз. Таму невыпадкова нашых майстроў-мэблеўшчыкаў запрашаюць для выканання складаных і вялікіх па аб'ёме заказаў. Вось і ў гэтыя дні яны працуюць на абсталяванні ў Мінску Палаца Рэспублікі. Мэбля і рознае мэблевае начынне вырабляюцца на прадпрыемстве, а потым адпраўляюцца ў Мінск і манціруюцца на месцы.

Увогуле на вырабе мэблі і абсталяванні Палаца Рэспублікі нашыя спецыялісты працуюць з сярэдзіны мінулага года. Вялікі ўклад у гэтую справу ўнеслі брыгады, якімі на спецучастку кіруюць Уладзімір Пячонка, Генадзь Булацкі і Мікалай Андрыевіч. Да гэтай складанай работы падключылася і брыгада Віктара Акушэвіча з эксперыментальнага ўчастка.

Варта зауважыць, што ўся мэбля, апроч мяккай, выраблена майстрамі нашага акцыянернага таварыства. Гэта шыкоўныя крэслы і сталы з высокамастацкай аздобай, офісная мэбля, розныя вырабы для афармлення холаў, інтэр'ераў і пад. Для аздаблення залаў выкарыстоўваюцца якасныя і дарагія матэрыялы, а для дэкаратыўнай аддзелкі яны нават закупляюцца ў Італіі.

Усю работу па абсталяванню Палаца Рэспублікі плануецца скончыць 26 чэрвеня.

**Генадзь ЗАБЭЛА,**
***старшы майстар эксперыментальнага ўчастка.***

## ● Навіны ● Падзеі ● Факты ●

***Згодна з рашэннем Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта зарэгістравана закрытае акцыянернае таварыства "Бабруйскмэбля", з нагоды чаго прадпрыемству выдадзена адпаведнае пасведчанне. Паводле статута акцыянернага таварыства назіральным саветам зацверджаны новы склад праўлення, у якое ўвайшлі чатырнаццаць чалавек.***

* * *

***Адзінаццаць маладых працаўніц ва ўзросце да 25 год узялі ўдзел у конкурсе "Міс-2000", арганізаваным загадчыцай клуба прадпрыемства Аленай Ільчанка. Пераможцай конкурсу стала маладая прыгажуня Вольга Тоўсцік, якая працуе кладаўшчыцай на заводзе мэблевых дэталяў. Званне віцэ-міс прысуджана Ірыне Слабоднік, Наталлі Загонавай, Ірыне Машыніставай.***

* * *

***Калектыўная дамова, падпісаная між наймальнікам і прафсаюзным камітэтам акцыянернага таварыства, зарэгістравана ў гарадскім выканаўчым камітэце.***

* * *

***Група працаўнікоў "Бабрускмэблі" ад'язджае на адпачынак у Чэхію працягласцю на дзевяць дзён. Гэтая паездка арганізавана прадпрыемствам як заахвочванне за добрасумленную і плённую працу.***

* * *

***Камітэт па фізічнай культуры, спорце і турызме адміністрацыі Ленінскага раёна ўзнагародзіў дыпломамі каманды акцыянернага таварыства, якія занялі першыя месцы ў бліцтурнірах па настольным тэнісе і валейболе сярод прадпрыемстваў раёна.***

### *Ушаноўваем юбіляраў!*

***З 50-годдзем віншуем:*** **кантралёра аддзела аховы і бяспекі Зміцера Пятровіча ЗАХАРЦАВА; укладчыцу загатовак і выраба з драўніны цэха № 1 Валянціну Цімафееўну МІНЬЧОНАК; сталяра цэха № 3 Міхаіла Сяргеевіча ШУНКЕВІЧА!**

***З 60-годдзем віншуем:*** **зваршчыка рамонтна-механічнага цэха Барыса Аўсеевіча РЫВІНА.**

*Ад усяе душы зычым імяніннікам здароўя і даўгалецця, шчасця і дабрабыту, добрых заробкаў і духоўнага багацця! Няхай заўсёды вам спадарожнічаюць поспех і ўдача, цудоўны настрой і аптымізм! Няхай спраўдзіцца ўсё самае жаданае і запаветнае!*

**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт.**

***ВІНШУЕМ З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!***

***Абаяльную і непаўторную Валянціну Леанідаўну ГАЎРЫКАВУ шчыра віншуем з днём нараджэння!***

***Ад усяе душы зычым здароўя і заўсёднай маладосці, харавства, матэрыяльных дабротаў і духоўнага багацця! Няхай кожны ранак пачынаецца з усмешкі, поспеху і шанцавання!***

***Сябры, калегі.***

## *УСЕ РАЗАМ – НА ВАКАЦЫІ*

Болей за дзве тысячы працаўнікоў акцыянернага таварыства з 19 чэрвеня пойдуць на вакацыі, ці тое самае – у водпуск. Спыніць вытворчасць і пайсці ў чарговы адпачынак было вырашана яшчэ ў час зацвярджэння калектыўнай дамовы, падпісанай на 2000 год.

Праўда, 288 чалавек усё ж застануцца на сваіх пасадах і працоўных месцах. Гэта найперш спецыялісты па маркетынгу і збыту, аддзелаў знешнеэканамічных сувязяў і фінансава, бухгалтэрыі і склада гатовай прадукцыі. Паводле графіку на вакацыі таксама пойдуць працаўнікі камбіната гандлю і грамадскага харчавання, рамонтна-будаўнічы персанал і інш.

Прымаючы рашэнне аб адпачынку усім калектывам, кіраўніцтва акцыянернага таварыства кіравалася як матэрыяльнымі інтарэсамі, так і клопатам аб людзях. Па-першае, людзі адпачнуць улетку, а па-другое, ад спынення ўсёй вытворчасці прадпрыемства толькі выйграе.

**Галіна ІВАНОВА,**
***начальнік аддзела кадраў.***

Сацыяльная абароненасць

# КЛОПАТ НЕ ТОЛЬКІ ПРА ВЫТВОРЧАСЦЬ

У нашым акцыянерным таварыстве працуе каля 2500 чалавек, прыкладна адну трэцюю з якіх складаюць маладыя людзі ўзросту да 30 гадоў, а жанчыны – 40 працэнтаў ад агульнай колькасці калектыву. Кіраўніцтва прадпрыемства і прафсаюзны камітэт робяць усё мажлівае для таго, каб працаўнікі былі сацыяльна абароненыя і маглі скарыстацца рознымі паслугамі, не выходзячы за вароты прахадной. Адным з такіх захадаў з'яўляецца продаж прадуктаў харчавання ў кошт заробкаў праз сваю гандлёвую сетку. Мэблеўшчыкаў абслугоўваюць дзве сталоўкі, пяць буфетаў, крама "Кулінарыя" і крама фірменнага гандлю (яшчэ адна такая – у Мінску).

Сацыяльная сфера ў нас аддзелена ад вытворчасці: сацыяльна-пабытовы комплекс працуе з 1996 года і мае правы юрыдычнай асобы. Рэалізуючы прадукцыю прадпрыемства, гэты філіял назапашвае прыбытак. Усё зробленае ідзе на пакрыццё ўласных выдаткаў, на ўтрыманне ведамаснага дзіцячага садка на 190 месцаў, аздараўленчага дзіцячага летніка "Спадарожнік", а таксама інтэрнатаў. Штогод дзеці нашых працаўнікоў маюць магчымасць на працягу трох зменаў адпачываць і ўмацоўваць сваё здароўе.

За кошт сродкаў прадпрыемства набываем пуцёўкі ў прафілакторыі і дамы адпачынку для аздараўлення сваіх працаўнікоў. Не забываем і пра пенсіянераў, якія атрымоўваюць дзесяць працэнтаў з агульнага кошту пуцёўкі. Такое, дарэчы, прадугледжана калектыўнай дамовай.

Ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, інвалідам першай і другой групы штогод бясплатна выдзяляем на паліва адходы дрэваапрацоўкі і дастаўляем дахаты. Да Дня Перамогі наведваем і віншуем ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, аказваем ім матэрыяльную помач. Маральна і матэрыяльна падтрымліваем воінаў-інтэрнацыяналістаў – удзельнікаў афганскай вайны.

На сацыяльную абарону працаўнікоў акцыянернага таварыства скіравана і калектыўная дамова, падпісаная між наймальнікам і прафсаюзным камітэтам. Спынюся толькі на асобных яе пунктах. Так, бацькі, якія маюць трох і болей малалетніх дзяцей, атрымалі права на бясплатнае іх утрыманне ў дашкольных дзіцячых установах. Такім сем'ям выдзяляюцца бясплатныя пуцёўкі ў аздараўленчы летнік "Спадарожнік".

Калектыўная дамова прадугледжвае падтрымку з нагоды працягласці хваробы. За час хваробы ад аднаго да двух месяцаў працаўнікам аказваецца матэрыяльная помач у памеры палова сярэднямесячнага заробку па акцыянерным таварыстве, звыш двух месяцаў – выплочваецца сярэднямесячны заробак. У выпадку смерці працаўніка ці пенсіянера аплочваюцца рытуальныя паслугі, выдзяляецца транспарт, а сем'ям аказваецца матэрыяльная помач.

Той, хто ідзе на пенсію, атрымлівае матэрыяльную помач, памеры якой вызначаюцца ў залежнасці ад працоўнага стажу на прадпрыемстве. Робім выплаты за адпрацаванае 25-годдзе, а таксама з нагоды 50-годдзя з дня нараджэння.

Згодна з дзеючым палажэннем штомесяц людзі маюць надбаўку за стаж работы на прадпрыемстве. У залежнасці ад працягласці адпрацаванага часу яна даведзена да 20 працэнтаў да стаўкі ці акладу.

Нягледзячы на сённяшнія эканамічныя цяжкасці, выдзяляем сродкі на ўтрыманне свайго медыцынскага пункта, фізіятэрапеўтычнага і стаматалагічнага кабінетаў, паслугамі якіх працаўнікі і нашыя пенсіянеры карыстаюцца бясплатна.

Спрыяем людзям у афармленні пенсій. Для гэтага ў аддзеле кадраў працуе спецыяліст, які займаецца падрыхтоўкай патрэбных дакументаў з наступнай іх перадачай у аддзел сацыяльнай абароны Ленінскага раёна. Між адміністрацыяй і кіраўніцтвам гэтага аддзела дасягнута дамоўленасць аб арганізацыі штомесячных кансультацый па налічэнню і выплаце пенсій.

Пры канцы аналізу стану спраў аб сацыяльнай абароненасці працаўнікоў акцыянернага таварыства заўважу, што ў нас своечасова выплочваюцца заробкі. Нельга сказаць, што заробкі высокія, але сярэдні іх памер не апускаецца ніжэй 140 працэнтаў таго мінімальнага спажывецкага бюджэту, што вызначаны ў нашай краіне.

**Сяргей ШКЛЯРЫК,**
***старшыня прафсаюзнага камітэта, намеснік генеральнага дырэктара па інфармацыйна-выхаваўчай рабоце.***

"СВЯТЛІЦУ" падрыхтаваў Леанід КУЛЯВЕЦ.

ДЛЯ МОЛОДЕЖИ И О НЕЙ

# ВОТ И ЛЕТО ПРИШЛО

А вместе с ним и государственный праздник "День молодежи", который у нас в республике отмечают в последнее воскресенье июня. Думаем, что интересно в этот день будет всем. Планы у городского и районных отделов по делам молодежи и ГК БПСМ грандиозные: будет что увидеть и возможность себя проявить всем желающим. Однако, подробнее об этом позже – после приведения в соответствие желаемого и возможного.

Подведены итоги смотра-конкурса среди общежитий учебных заведений. Весь год компетентные и строгие члены оргкомитета смотрели, кому живется лучше у нас в городе. И решили, что в общежитии высшего профессионально-технического училища строительного профиля. Сей факт, конечно, не случаен.

А все дело в том, что любят свою работу и своих учащихся директор В. П. Гурин и его заместитель по воспитательной работе П. К. Пучко, болеют за свое дело. И результаты налицо. Есть в общежитии все, во всяком случае нам показалось. Кто не верит – пусть сам посмотрит. Но мы-то знаем, что это для них не предел – к следующему году обязательно придумают что-то новенькое. А награда ребятам — телевизор в общежитии. К следующему году в городе прибавится, на наш взгляд, теннисистов – за счет проживающих в общежитии лесотехнического техникума, так как им за второе место в смотре-конкурсе подарен стол для настольного тенниса. Ну, а лучшие дискотеки, думаем, будут в общежитиях ПТУ-142 и автотранспортного колледжа, поделивших между собой 3 место и получивших магнитофоны.

К слову о дискотеках. Задания учебные заведения уже получили, и сечас их директора "ломают" головы, как же сделать досуг своих учащихся интереснее и разнообразнее: то ли дискобар оформить, то ли молодежное кафе; да и деньги на это надо найти. Как говорят в народе, - цыплят по осени считают. Ну, а мы по осени посчитаем (и сравним обязательно!): сколько интересных мест для отдыха учащихся у нас в городе прибавилось.

Но главное, конечно, это не количество, а качество. И не мешало бы о качестве своей работы задуматься некоторым заезжим "звездам". А то ведь, слушая одну из программ дискотеки "Motor dans", что с большой помпой открылась не так давно в ресторане "Белая Русь", сложилось впечатление, что их программа с такой же "бородой", как и тот Дед Мороз, о котором вещала песенка в жаркую июньскую ночь. Да и нет того ди-джея Re Siee, о котором говорит реклама. Видно, больше по душе ему не музыкальное "просвещение" бобруйской молодежи за диджеевским пультом, а подсчитывание денег, которые она ему принесла.

Ну, а молодежи, полюбившей ди-джея Питона и диско-клуб "Лига" из Могилева сообщаем: Питон и К° из клуба "Лига"(а они утверждают, что у них в программах есть еще очень много интересного) приедут к нам еще не раз и будут регулярно выступать в городском парке культуры и отдыха, а также на дискотеке в ресторане "Бобруйск" (и не только на ночной) – к тому же за очень умеренную плату. Что ж поживем – увидим. А вы следите за рекламой.

Зря обыватели уж сколько раз твердили, что наша молодежь ничего не умеет и ничего не хочет. Пусть заглянут в списки желающих поработать в студенческих отрядах как в городе, так и в республике Молдова. А больше всего радует то, что молодежь наша очень даже не против работать и бесплатно, т.е. волонтерами. Кстати, наш город становится всемирно известным: в лагерь с детьми-инвалидами приезжали волонтеры из Канады, в этом – ждем из Англии. А после работы молодежного волонтерского экологического лагеря наш город, уверена, станет еще чище и краше. Ну, а те, кто не попал в наши списки ( а таких, поверьте, много), не огорчайтесь. Вас ждут центр занятости и агрофирма "Березина". Здесь работы хватит всем.

Эпогеем июня станет празднование Дня города. По традиции лучшие из лучших выпускники средних школ, ПТУ, ССУЗов, ВУЗов из рук председателя горисполкома В. Ф.Романовского на сцене ДК "Шинник" получат заслуженные награды. А завершится это празднество выпускным балом для лучших представителей учащейся молодежи города.

**Н. ЖУРАВЛЕВА,**
**зав.отделом по делам молодежи Бобруйского горисполкома.**

# НАСЦЕЧКА ПРЫВАБІЛА ЎСІХ



*Не толькі нашага фотакарэспандэнта, але і ўсіх, хто прысутнічаў на заключным канцэрце агляду-конкурсу "Юныя таленты", што праводзіўся ў Ленінскім раёне, прывабіла пяцігадовая Насцечка Семянішчава – выхаванка дзіцячага садка № 5. Прывабіла тым, як танцуе ў масавым нумары, і як непрымусова, з выразнасцю чытае верш. І нездарма публіка ўзнагародзіла яе гарачымі апладысментамі.*

*Пасля канцэрта мы вырашылі крыху больш даведацца пра гэтую маленькую "артыстку". І вось што распавяла загадчыца дзіцячых ясляў-садка № 5 аддзела адукацыі адміністрацыі Ленінскага раёна Валянціна Фёдараўна Казлова.*

*Насця – дачка харэографа Алены Валер'янаўны і афіцэра Паўла Генадзьевіча Семянішчавых. І выхавальніцы, і бацькі дзяцей, што ходзяць у гэты садок, называюць дзяўчынку марай кожнай сям'і.*

*А гэта таму, што ў Насці вельмі добрае сэрцайка. Яна добразычлівая, не капрызная, ахвотна ўступае ў стасункі са сваімі равеснікамі, ніколі не пакрыўдзіць іх. Насця – усеагульная любіміца дзяцей і дарослых.*

*Дзяўчынка здольная. Яна любіць танцаваць, спяваць, чытаць вершы, добра малюе, прычым яе малюнкі вызначаюцца асаблівай насычанасцю фарбаў, радасным успрыманнем усяго таго, што атуляе яе. Адным словам, прыемнае дзіця. Работнікі садка не сумняваюцца, што Насцечка будзе такой жа і ў школе.*

*Дарэчы, падобных на гэтую дзяўчынку дзяцей у садку нямала.*

**Яфім ГЕЙКЕР.**
**Фота Аляксандра ФІСЕНКІ.**

# БУДЬ ХОЗЯИНОМ

**Июнь – очень ответственный месяц.** Интенсивно растут и развиваются плодово-ягодные, овощные и цветочно-декоративные культуры. Работы по уходу за насаждениями и посевами должны быть направлены на создание наиболее благоприятных условий для их роста и формирования плодов.

**В плодовом саду.** Регулярно рыхлят почву, удаляют сорняки в незамульчированных приствольных кругах плодовых растений и междурядьях сада. Удаляют корневую и штамбовую поросль. При засушливой погоде поливают растения. Проводят подкормку. У молодых яблонь и груш до плодоношения прищипывают сильно растущие побеги. Когда минует опасность заморозков, убирают дымовые кучи.

**На ягодниках.** В начале месяца заканчивают рыхление почвы вокруг кустов, в междурядьях ягодников и подкормку их удобрениями. На участках земляники удаляют появляющиеся на кустах усы, оставляя лишь те из них, которые нужны для получения рассады.

**На огороде.** Высаживают в грунт рассаду теплолюбивых растений – дынь, арбузов, кабачков, а также рассаду капусты и помидоры средних сроков созревания. Производят поздние посевы огурцов. Окучивают картофель, рыхлят междурядья на посевах овощных культур, прореживают всходы, подкармливают растения. Убирают редис, салат, шпинат, летние сорта редьки, лук-перо. Высевают повторно редис, салат, шпинат. Производят пасынкование помидоров, подвязывают их к опоре.

**В цветнике.** Продолжают высаживать рассаду летников, георгинов и других многолетних цветов. Растения поливают, подкармливают, рыхлят почву, удаляют сорняки.



## БОБРУЙСКИЕ ТЕПЛОВЫЕ СЕТИ ГПО "БОБРУЙСКЖИЛКОМХОЗ" СООБЩАЮТ:

**В летний период 2000 года в соответствии с планами-графиками испытаний и ремонта теплотрасс и оборудования теплоисточников, утвержденными Бобруйским горисполкомом, горячая вода будет отключена в следующие сроки:**

| | РАЙОН ОТКЛЮЧЕНИЯ |
|---|---|
| 25.05.-22.06. 2000 г. | Улицы – Минская, Октябрьская, Интернациональная, Гоголя, К.Либкнехта, нечетная сторона ул. Крылова и прилегающих к ним объектов от котельных №2 в авиагородке и ул. Кирова, 25-а. |
| 26.06.- 13.07. 2000 г. | Улицы – Батова, Сикорского, Энергетиков, проспект Строителей, бульвар Приберезинский, проезд Звездный. |
| 20.07.- 22.08.2000 г. | Улицы – Шинная, Гагарина, 50 лет ВЛКСМ, Лынькова, Ульяновская, Западная. |

*Примечание: Во время проведения гидравлических испытаний прекращается теплоснабжение всех потребителей города, подключенных к магистралям Бобруйских тепловых сетей.*

**Администрация Бобруйских тепловых сетей.**
**Администрация ГПО ЖКХ.**

***Поздравляю любимого мужчину***
**Петра Ивановича СЕМЕНОВА**
***с днем рождения!***

***Желаю, чтобы в твоей жизни ты испытал и попробовал все самое лучшее, чтобы самые смелые мечты и фантазии превращались в реальность. Пусть не покидает тебя верность дружбы, страсть жизни, умение находить, ценить и сохранять все стоящее.***

*Сколько слов, пожеланий, напутствий,*
*Чем бы стоящим их перекрыть.*
*Жизнь ведь схватит, сожмет и отпустит,*
*Но в себе нужно "Я" сохранить.*
*Надо будет дерзать и метаться,*
*Штурмом брать все крутые пути,*
*Пожелаю тебе не сдаваться,*
*Пожелаю до цели дойти.*
*Пожелаю друзей самых верных,*
*Самых нужных и ласковых слов,*
*Человеческих качеств бесценных*
*И большую земную любовь.*

***Пусть глубина твоего ума равняется глубине твоего сердца и всегда останется с тобой искренняя страстная любовь без меры и границ.***

**Твоя М.**

**Поздравляем любимого брата, дядю, дедушку Константина Ивановича БУНЬ с 60-летием!**

*Пусть седина подкралась тенью,*
*Но ты, как в юности, крепись.*
*Седые волосы – награда*
*За трудно прожитую жизнь.*
*Мы будем впредь с тобою вместе*
*И радость, и печаль делить.*
*Прими ты наши поздравленья,*
*Желаем долго-долго жить.*

**С уважением сестра, племянницы и внучки.**

**От всей души поздравляем с 70-летним юбилеем дорогого и любимого папку и дедушку Леонида Исаевича ГАВРИЛОВА!**

**Желаем крепкого здоровья и долголетия .**

*Не надо грустить, что*
*проходят года!*
*Прекрасен собой*
*каждый возраст.*
*Желаем тебе не*
*стареть никогда!!!*
*В душе сохранить*
*ту же бодрость.*
*Огонь!!!*

***Дети и внуки.***

***Поздравляем от всей души любимого, дорогого мужа, отца, дедушку Виктора Михайловича СИНКОВЦА с юбилеем!***

*Вот и еще один год твоей жизни*
*Уходит в века.*
*Разреши нам сегодня с днем*
*рожденья*
*Поздравить тебя.*
*Пусть эта*
*знаменательная дата*
*В душе оставит*
*добрый след.*
*Желаем мы всего,*
*чем жизнь богата:*
*Здоровья, счастья,*
*долгих лет.*

**Вся твоя семья.**

***Поздравляем нашего дорогого и любимого сыночка Владимира Васильевича ТРАПЕНКА с 30-летием!***

*Тебе желаем мы здоровья и удачи,*
*Пусть рядом будут радость*
*и мечта.*
*И пусть из всех мужских моральных*
*качеств*
*В тебе сильнейшим будет доброта.*

**Мама, папа, брат Виталя.**

***Дорогую мамочку Ефрасинью Васильевну ЛУЧЕНОК поздравляем с днем рождения!***

*Я такая счастливая,*
*Что ты есть у меня.*
*Ты, как солнышко ясное,*
*Среди летнего дня.*

**Дочь Евгения, внуки, правнуки.**



## ПРИГЛАСИТЕЛЬНЫЙ БИЛЕТ

### *16 июня, пятница*

**Краеведческий музей** - 10.00-17.00 - для посетителей открыта экспозиция. Стоимость билетов: 35, 70, 90 рублей.

**Выставочный зал** - 10.00-18.00- выставка работ учащихся, мастеров, преподавателей профессионального училища декоративно-прикладного искусства № 15. Стоимость билетов: 20, 40,60 рублей.

**Городской парк культуры и отдыха** - 11.00-20.00- работают стрелковый тир, аттракционы. Стоимость билетов: 20 рублей; от 120 до 280 рублей.

10.00-22.00- зал компьютерных игр. Стоимость билетов: 100 рублей.

20.00-23.00- дискотека. Стоимость билетов: 250 рублей.

**ДК ОАО "ФанДОК"** - 14.00 - дискотека для детей "Фламинго". Вход свободный.

### *17 июня, суббота*

**Краеведческий музей** - 10.00-17.00 - для посетителей открыта экспозиция. Стоимость билетов: 35, 70, 90 рублей.

**Выставочный зал** - 10.00-18.00 - выставка работ учащихся, мастеров, преподавателей профессионального училища декоративно-прикладного искусства № 15. Стоимость билетов: 20, 40, 60 рублей.

**Городской парк культуры и отдыха** - 11.00-20.00- работают стрелковый тир, аттракционы.Стоимость билетов: 20 рублей; от 120 до 280 рублей.

10.00-22.00 - зал компьютерных игр. Стоимость билетов: 100 рублей.

20.00-23.00 - дискотека. Стоимость билетов: 250 рублей.

**Городская библиотека им. Гоголя** - 11.30 - паэтычны калейдаскоп: "Ты будзеш гучаць, наша родная мова".

### *18 июня, воскресенье*

**Театр драмы и комедии имени В. И. Дунина-Марцинкевича** - 18.00 - юбилейный вечер актрисы Жанны Заремба.

**Краеведческий музей** - 10.00-17.00- для посетителей открыта экспозиция. Стоимость билетов: 35, 70, 90 рублей.

**Выставочный зал** - 17.00-18.00 - выставка работ учащихся, мастеров, преподавателей профессионального училища декоративно-прикладного искусства № 15. Стоимость билетов: 20, 40, 60 рублей.

**Городской парк культуры и отдыха** - 10.00-22.00 - зал компьютерных игр.Стоимость билетов: 100 рублей.

11.00-20.00- работают стрелковый тир, аттракционы. Стоимость билетов: 20 рублей: от 120 до 280 рублей.

18.00 - концерт, посвященный Дню медицинского работника. В программе: выступление коллективов художественной самодеятельности ДК ОАО "ФанДОК"(студии современного танца "Грация", студии эстрадного танца "Шанс", образцовой вокальной студии "Сажинцы").

20.00-23.00 - дискотека. Стоимость билетов: 250 рублей.



**Средняя величина стоимости строительства 1 кв.метра общей площади жилых домов, начатых строительством после вступления в силу Указа Президента Республики Беларусь от 14 апреля 2000 г. № 185 "О предоставлении гражданам льготных кредитов на строительство (реконструкцию) или приобретение жилых помещений" составляет на 1 июня 2000 года:**

***– для многоэтажных жилых домов - 155225 руб.;***
***– для одноквартирных жилых домов усадебного типа - 233863 руб***

**УКС горисполкома.**

***Коммерческая фирма „ШЛЯХ"*** ***переименовывается в унитарное частное торговое предприятие „Коммерческая фирма „Шлях" и является правопреемником коммерческой фирмы „Шлях". Претензии принимаются в течение двух месяцев.***



**ПРОДАЖА МЕБЕЛИ, ВЕЩЕЙ**

➢ двери квартирные с коробками, б/у, качественные. Тел. 2-82-83.

➢ немецкий аккордеон "Вельтмастер" трехчетвертной. Тел. 3-20-81 (после 17 час.).

➢ деревянная двухярусная кровать в хорошем состоянии. Тел. 58-20-52.

➢ коляска детская зимнелетняя (четверка), немного б/у. Тел. 55-89-28.

➢ ружье ИЖ-54 2-ствольное, стенка "Свирь" 4-секционная, б/у, цена договорная. Тел. 4-86-23 (после 18 час.).

➢ балконная рама, недорого. Тел. 3-58-68.

➢ 3-комнатная приватизированная квартира жилой площадью 46 кв.м., общей – 61. Комнаты все отдельные, есть телефон, балкон застеклен. Тел. 7-06-03.

➢ срочно однокомнатная приватизированная квартира на проспекте Строителей (5/9-эт.-дома). Тел. 55-56-63.

➢ недостроенный коттедж 250 кв.м. в центре, недорого. Тел. 2-58-19.

➢ сруб 5х6 с выходом бревен 3 м под веранду или сени, балки, стропила, обрешетка, 4 оконных блока или меняю на грузовой, легковой автомобиль "ВАЗ" иномарку или продам, 550 у.е. Тел. 2-54-80.

➢ срочно 1-комнатная квартира в 6-м микрорайоне, 7/9-этажного с телефоном, 43/17/9, недорого. Тел. 2-37-42.

➢ 2-комнатная благоустроенная квартира (район Белой церкви), 2-й этаж, 44,82/30, 4/5,65, комнаты раздельные, санузел раздельный, имеется балкон, телефон, подвал. Тел. 2-54-29.

**ПРОДАЖА АВТОТРАНСПОРТА**

➢ автомобиль "Таврия" на ходу. Тел. 2-27-40 ( с 9 до 18 час., Валентину); 2-77-48 (с 17 до 23 час.).

➢ мотоцикл ММВЗ 3-112, в хорошем состоянии, запчасти, недорого. Тел. 2-56-59.

➢ а/м "ВАЗ-21063", 1983 г.в., новые резина и аккумулятор, в хорошем состоянии, 600 у.е., торг или меняю на иномарку. Адрес: п. Титовка, пер. 1-ый Рогачевский, 7.

**СДАЮ**

➢ 2-комнатную квартиру на ДОКе частично с мебелью, без телефона, 2-й этаж, на длительный срок. Недорого. Предоплата за 3 месяца. Обращаться: ул. Киселевичская, дом 2, проезд автобусом № 11 до конечной остановки.

**СНИМУ**

➢ молодой человек снимет комнату или полдома. Желательно недорого. Порядок гарантирую. Тел. 4-76-61.

**УСЛУГИ**

➢ высокопрофессиональная видеосъемка и прокат видеокамер с доставкой на дом в удобное время, фотоуслуги, проведение свадебных торжеств с музыкальным сопровождением (веселый тамада). Запись видеокассет под заказ. Тел. 7-67-94. Лиц. № 568 от 6.11.98г. МК РБ.

➢ ремонтно-строительные работы (нал -безнал). Шлифовка полов, ремонт твердой, мягкой кровли, бетонные, штукатурные, малярные, отделочные, фасадные и другие работы. Тел. 2-42-19. Лицензия № 5097 от 3.03.98г. выдана администрацией Ленинского района г. Бобруйска.

**РАЗНОЕ**

➢ лучший подарок себе и вашему ребенку – милый, очаровательный персидский котенок. Возраст – 1,5 месяца, недорого. Окрас: белый (мальчик), черепаховый, шиншиловый (девочки). Тел. 4-29-16 (после 18 час.).

➢ корова черно-белой окраски, родила 5 телят. Цена договорная. Обращаться по адресу: ул. Бахарова, дом 315, автобусы 5, 5-Б, 5-А, остановка "Галантерейная".

➢ требуются инициативные, энергичные сотрудники на высокооплачиваемую работу. Возможность частичной и полной занятости. Возраст – с 20 до 50 лет. Тел. 3-77-01 (после 19 час.). лиц. № 4010 от 27.11.96 выдана МОИК.

➢ приглашаю к сотрудничеству на высокооплачиваемую работу. Тел. 55-12-07 (до 10, после 20 час.). Св. № 4010 от 27.11.96 выдано МОИК.

➢ макияж к торжеству у вас дома (возможен косметический уход за кожей лица). Тел. 55-12-07 (до 10 и после 20 час., Тамару). Св. № 4010 от 27.11.96, выдано МОИК.

➢ похудей быстро! Огромный успех в Европе и Америке. Уникальный напиток, позволяющий худеть без диет и голодания. Контурные антицеллюлитные крема для похудения. Товар сертифицирован. Тел. 55-12-07 (до 10 и после 20 час.). Св. № 4010 от 27.11.96 выдано МОИК.

➢ задумайтесь над своей фигурой сегодня и уже завтра вы начнете терять свои первые килограммы и сантиметры! Результат превосходит все ожидания!

Новинка: контурные и тонирующие крема для кожи! Товар сертифицирован. Тел. 3-77-01 (после 19 час.). Свид. № 4010 от 27.11.96, МОИК.

➢ утерянное удостоверение инвалида второй группы, выданное на имя Лысенко Владимира Александровича, считать недействительным.

➢ щенки ротвейлера от рабочих производителей. Отличная родословная, окрас. Легки в дрессировке, прекрасная охрана. Щенкам 4 недели. Адрес: ул. Горького, дом 40, кв. 86.

➢ утерянное пенсионное удостоверение, выданное на имя Сенкевич Анны Анзельмовны, считать недействительным.

➢ продаются дверные блоки на двухкомнатную квартиру, окрашенные в белый цвет б/у, а также зальная и кухонная двери со стеклом, входная обшита дерматином. Тел. 58-24-21 (после 17 час.).

**Коллектив Бобруйского государственного автотранспортного колледжа выражает глубокое соболезнование преподавателю Степаниде Ивановне ГУРКО в связи со смертью отца.**

**Коллектив работников и учащихся Бобруйского ВПУ ДПИ выражает глубокое соболезнование бывшему директору Аркадию Егоровичу ЛАРИНУ в связи со смертью жены.**


Галоўны рэдактар Аляксандр ДЗЕМІДОВІЧ.

**ЗАСНАВАПЬНІКІ -**
**Бабруйскі гарадскі выканаўчы камітэт, гарадскі Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі газеты.**

**НАШ АДРАС:**
**213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103**

**галоўнага рэдактара - 7-20-14; намесніка галоўнага рэдактара-2-83-26; адказнага сакратара - 7-60-84; аддзелаў: аддзела грамадска-палітычнага жыцця і сацыяльных праблем - 7-80-57; прамысловага і інфармацыі; будаўніцтва, транспарту і гарадской гаспадаркі - 2-87-31; пісьмаў, масавай работы 7-36-93, радыёінфармацыі -7-80-57; фотакарэспандэнта - 7-36-93; аддзела рэкламы - 7-24-41, 7-24-45 ; бухгалтэрыі - 2-28-44. Факс: 7-24-45.**

**Газета выходзіць па аўторках, серадах, і пятніцах. Індэкс 64100. Рэгістрац. № 276.**

**Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытатаў, эканамічных даных, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў, іншай інфармацыі, а таксама за наяўнасць ў матэрыялах даных, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.**

**Газета набрана і звёрстана ў камп'ютэрным цэху рэдакцыі газеты "Бабруйскае жыццё". Надрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. Наш адрас: 213800, г.Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103. Тыраж 10002. Заказ 4618. Нумар падпісаны да друку ў 17.00.**